# Я. ЮХНАВЕЦ

## ПАЭТА – ЮНАК

*І зноў, здаецца, абыякавасьць.*
*Душа трымціць разладжаным напевам.*
*Я адчуваю, што ізноў*
*нязьведаў аніяк чаго шукаў*
*між напалоханых маёй трывогай словаў,*
*між пратаёных прагнасьцяў людзей шчасьлівых,*
*між тых, што аціхлі пад магільным дзёрнам.*
*Я найбольш да іх*
*капаў свае тунэлі,*
*ваяком адважным абходзіў перашкоды,*
*каб іхныя наймеры, сьціпла-голасна*
*назваць канчальным асуджэньням:*
*вось гэта грэшныя,*
*а гэтыя у вяках сьвятыя,*
*хоць нават, а ніхто для іх*
*непаставіў крыж,*
*што праз год, ці два зьгіне,*
*над канаўкай выкапанай ў зямлі.*
*Навошта абыякавасьць паэтычная?..*
*...абыякавасьць ня стыгне галалёдзьдзю –*
*моц ейную ляпей адчуць жадаю –*
*і кaберцамі тады ўсьцяж*
*натхненьня сьцеліцца ў сэрцы.*

## ВАДАСПАД ШТОДНЯ

*Там вада ліецца*
*праз затору*
*шуміць, быццам, лес кругом.*
*Думка няўмысная мая*
*наведвае гэты харом.*

*Срабрыстым цьвіценьнем спад*
*прыгожыць рачное дно.*
*Млын стары на адхоне,*
*пыркі лятуць у вакно.*

*Там вокны даўно разьбіты,*
*і на жорнах расьце палын;*
*і дарога пераз грэблю*
*цяпер ідзе ў абмін.*

*З лёту высокага часта*
*да спаду шугаюць кагаркі.*
*Бы кропляй лішняй, тады,*
*хвалькі льнуць наўскрайкі.*

*Пакінен млын і грэбля,*
*і млынара ўжо няма.*
*Песьняй бясконцай ліецца*
*вадаспад*
*штодня.*

1951

* * * * *

*Вецер шасьцеў за вокнамі,*
*шасьцеў.*
*Хмары месяц згнялі з неба.*
*А восень, бы спрытныя рукі*
*вопратку з дрэў здымалі.*

*Бы савінае крыльле шамцеў,*
*шамцеў*
*за вокнамі шорахна вецер.*
*Ноч апушчала неадгоныя сьцені*
*цела з душой разьверыць.*

*Перад сьвітанкам вецер заціх,*
*заціх.*
*Хмары месяц прагналі.*
*Званіцы сьвятыняў*
*не ад зямлі,*
*а зь неба*
*Хрыстовай цьвярдыняй*
*сталі.*

* * * * *

*Справедны той*
*хто сваё наканаваньня*
*кляне аддана*
*над магілай згінутых,*
*хто родніць іхнае жыцьцё мінулае,*
*і даражыць найбольш сваіх славу.*

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Некаторыя падпішчыкі, перасылаючы ахыяры й падпіску да Рэдакцыі газэты „Беларускі ЧАС" просяць не друкаваць іхніх прозьвішчаў на балонках газэты, а зьмяшчаць толькі ініцыялы й перасланыя грашавыя сумы, або й зусім не зьмяшчаць нічога; бо ўважаюць, што чэкавыя трансакцыі ёсьць найлепшым праўным сьродкам рэгістрацыі й кантролі касы.

Ізноў-жа, іншыя, пішуць, што друкаваньне прозьвішчаў і атрыманых сумаў выклікае да пэўнага стопня саперніцтва ў сэнсе вышыні ахвяраў ды будзе пярэчыць некаторым этычным формам людзкай дзейнасьці наагул.

Рэдакцыйная Калегія, з свайго боку, уважае, што сьпісак ахвярадаўцаў і падпішчыкаў будзе займаць многа мейсца на балонках газэты й адначасна будзе псаваць эстэтычны ейны выгляд.

Таму, як і раней, Рэдакцыя „ЧАСУ" ня будзе зьмяшчаць ні прозьвішчаў, ні атрыманых грашавых сумаў на балонках газэты „ЧАС".

Рэдакцыя

# Камунізм у Ліках

*працяг з 5-й бачынкі*

тыя налічвае 500,000 сяброў. У апошніх выбарах атрымала больш 20% усіх галасоў. Французкія камуністы прапагуюць дэмакратызм, не прызнаюць маскоўскай кантролі й крытыкуюць Маскву за рэпрэсіі ў Савецкім Саюзе. Аднак, бальшыня французаў ім не даварае, лічачы камуністычную партыю таталітарнай.

**Італія** мае найбольшую камуністычную партыю ў вольным сьвеце, 1.7 мільёнаў сяброў, а ў парлямэнце Мае 36% усіх прадстаўнікоў. Пакульшто Італіянцам удалося не дапусьціць камуністаў да ўлады, але гэта можа зьмяніцца, асабліва, калі эканамічны крызыс у Італіі не коньчыцца хутка.

Італіянскія камуністы кажуць, што яны падтрымліваюць дэмакрацыйную сыстэму і ўсе свабоды.

**У Гішпаніі** ёсьць шмат прыхільнікаў камуністычнай партыі, хоць партыя афіцыйна забаронена. Нават пры гэтых умовах, камуністычныя лідары заўсёды могуць выклікаць паважныя бунты й страйкі ў Гішпаніі. Яны разьлічваюць, што пры вольных выбарах камуністы атрымалі-б прыблізна 20% галасоў.

**Партугальская** камуністычная партыя налічвае 120,000 сяброў. Яна застаецца лёяльнай Маскве й не супрацоўнічае з іншымі камуністычнымі партыямі Заходняй Еўропы, якія хочуць быць больш незалежнымі. Аднак ня відаць вялікай магчымасьці каб камуністам удалося пераняць у свае рукі уладу ў Партугаліі.

## СКАНДЫНАВІЯ

**Швэцыя.** У мінулых выбарах камуністычная партыя Швэцыі атрымала толькі 5.6% голасоў і яе пэрспэктывы на наступныя выбары выглядаюць яшчэ слабей.

**У Нарвэгіі** камуністы зусім выключаныя із парлямэнту. У **Даніі** яны маюць толькі 3.9% прадстаўнікоў у парлямэнце.

**У Фінляндыі** камуністычная партыя зьяўляецца другой найбольшай і мае 20% ўсіх прадстаўнікоў у парлямэнце. Яна таксама бярэ ўдзел у цэнтральным урадзе маючы чатырох міністраў у фінляндзкім кабінэце.

**У Ісляндыі** камуністы маюць 11 із 60 прадстаўнікоў у парлямэнце. Ісляндзкія камуністы хочуць быць „нэйтральнымі", пакінуць НАТО й зьліквідаваць амэрыканскія базы ў Ісляндыі.

## АЗІЯ

**Японская** камуністычная партыя налічвае 370,000 сяброў і 10% прадстаўнікоў у парлямэнце. Аб папулярнасьці камуністычнай партыі ў Японіі прамаўляе 2.4 мільённы тыраж камуністычнай газэты.

Японскія камуністы абяцаюць утрымаць Імпэратара як галаву ўраду, утрымаць канстытуцыю, свабоду рэлігіі й адкінуць усякую залежнасьць ад Масквы або Пэкіну.

**У Індыі** камуністычная партыя налічвае толькі 200,000 сяброў. Нягледзячы на іхную малую колькасьць, камуністам удалося выбраць

*працяг на 8-й бачынцы*

# Амальрык: Небясьпека для Эўропы

Савецкі гісторык-дысыдэнт, Андрэй Амальрык, пасьля шматгодняга прасьледваньня й зьняволеньня ў СССР, цяпер знаходзіцца ў Амэрыцы. Ён нядаўна напісаў артыкул пад загалоўкам „Эўропа й Савецкі Саюз", які быў надрукаваны ў „Журнале Ўсходніх і Заходніх Студыяў" у Лёндане. Ніжэй падаюцца выняткі з гэтага артыкулу. Амальрык піша:

„Я думаю, што на Захадзе пераважае думка, што Савецкі Саюз мілітарна не загражае Эўропе. Я сам быў-бы вельмі зьдзіўлены, каб заўтра савецкае войска перайшло граніцу ў Заходнюю Нямеччыну або ў Аўстрыю. Аднак я веру, што бясьпека Эўропы не залежыць ані ад добрай волі Савецкага Саюзу, ані ад волі Эўрапейскіх дзяржаваў супрацўляцца яму, але залежыць ад трох небясьпечных фактараў."

Першы з іх ёсьць прысутнасьць Амэрыканскага войска ў Эўропе, якое стрымлівае Савецкі Саюз ад такіх рызыкоўных крокаў, як напад на Заходні Бэрлін.

Наступным ёсьць савецкія нутраныя праблемы й недавер да краінаў Усходняй Эўропы.

Трэці фактар – гэта бязупынная загроза Савецкаму Саюзу ад Кітаю і жаданьне супакою ў Эўропе на выпадак адкрытай вайны з Кітаям.

Далей Амальрык кажа, што, прысутнасьць амэрыканскага войска ў Эўропе ня можна ўважаць справай нязьменнай. Вельмі магчыма, што калі Савецкі Саюз хоць часткова зьменьшыць колькасьць свайго войска ў Усходняй Эўропе, тагды ў Амэрыцы станецца папулярнай ідэя поўнага адкліканьня амэрыканскага войска з Эўропы як факт палепшаньня Амэрыканска-Савецкіх адносін.

Савецкія нутраныя праблемы: эканамічныя, узмоцненае незадаваленьне паміж народамі Савецкага Саюзу, канфлікт з інтэлігэнцыяй і іншыя – могуць змусіць савецкіх лідараў шукаць разьвязкі гэтых праблемаў у міжнародных канфліктах, так як гэта рабілася раней мінулымі расейскімі ўладамі напачатку рэвалюцыяў 1905 і 1917 гадоў. А калі ня дойдзе да міжнародных канфліктаў, тагды ўзмоцненая савецкая армія будзе рэпрэзэнтаваць сабою загрозу для савецкай палітычнай улады.

Магчымасьць заўсёды існуе, што Савецкі Саюз і Кітай пагодзяцца, асабліва цяпер, пасьля сьмерці Мао Тсэтунга. Кітай можа быць заняты сваімі нутранымі клопатамі й не захоча завастраць адносінаў з Савецкім Саюзам. Кажуць, што прасавецкія элемэнты яшчэ моцныя ў кітайскай арміі. Я ня веру, што добрыя суадносіны паміж Савецкім Саюзам і Кітаям могуць існаваць доўга й думаю, што канфлікт паміж імі не праміне. Але, на пэўны час, яны могуць пагадзіцца й нават падзяляць Эўропу й Азію на раёны сваёй дамінацыі. Гэта можа выклікаць цяжкасьці для Эўропы.

Калі Заходнія краіны, асабліва ЗША, ня знойдуць дастатковай палітычнай волі супрацівіцца Савецкаму Саюзу ў Эўропе й памагчы лібералізацыі ў Савецкім Саюзе, і калі яны ня знойдуць дастатковай палітычнай мудрасьці паправіць адносіны з Кітаям, падтрымліваючы ягоную незалежнасьць ад Масквы, тагды Францыя й Англія могуць некалі знайсьціся ў такой самай сытуацыі як Вэнгрыя й Чэхаславакія сягодня.

# КАЛЯДНЫ АБЕД

Для перахаваньня традыцыяў Калядных сьвятаў на чужыне, Парафія Катэдральнага Сабору Св. Кірыла Тураўскага ў Брукліне, Нью Ёрк, у нядзелю 9-га студзеня сёлета, ладзіла сяброўскі Калядны абед.

А гадзіне 10-й раніцы адбылася Божая Служба, якую адправілі Настаяцель Сабору Прат. Васіль Кэндыш з а. Рыгорам Кістнэрам. Пасьля заканчэньня Службы Божай, у царкоўнай салі быў прыгатаваны абед. Апрача парафіянаў Прыходу Св. Кірылы Тураўскага на абедзе прысутнічала многа гасьцей. Ад суседняе парафіі Жыравіцкай Божае Маці ў Гайлэнд Парк прыбылі: Настаяцель а. Александар Яноўскі, Старшыня Парафіяльнай Рады Сп. Аўгень Лысюк, Матушка Марыя Войтэнка, Сп. Русак. З Дэтроіту Сп. Доктар Язэп Сажыц, Спадарыня Вара Сажыц, з Стамфорду, Кан. Спадарства Галякі, з Брыджпорт Кан. Спадарства Ліхачы, з Стэтэн Айлэнд Сп. Янка Юхнавец, Сп. Г. Паланевіч, Сп. Пётра Мірановіч, Др. Вітаўт Тумаш, Др. В. Кіпель, Спадарства Бартулі ды многа іншых.

Сьвяточны ды смачны абед быў прыгатаваны сяброўкамі Сястрыцтва: Валянцінай Яновіч, пры дапамозе Спадарыні Марысі Варабей, Спадарыні Галіны Яновіч, Спадарышні Марыі Касьцюкевіч і Спадара Янкі Яновіча.

Падчас абеду прамаўлялі: Прат. Васіль Кендыш, айцы Александар Яноўскі й Рыгор Кістнэр, Спадар Інж. Мікола Гарошка, Сп. Др. Язэп Сажыц, ад Парафіі ў Дэтройце, Сп. Аўгень Лысюк ад Парафіі ў Гайлэнд Парк, Сп. Мікола Кунцэвіч ад Акругі БАЗА. Др. Тумаш падаў да ведама аб перасланьні сьвяточных віншаваньняў ад беларускай паэткі Ларысы Гэніюш. Прыгожы ейны верш прадэклямавала Спадарыня Вера Бартуль.

У сваёй прамове а. Прат. Васіль Кендыш гаварыў аб прыгожых калядных традыцыях у нас на Бацькаўшчыне, якія сваім глыбокім зьместам баранілі ды яшчэ й сяньня бароняць беларускі народ ад асыміляцыйных уплываў сваіх суседаў, ды адначасна абнадзейваюць і ўзмацоўваюць веру ў лепшую будучыню.

На заканчэньне Старшыня Парафіяльнай Рады Інж. Мікола Гарошка выказаў шчырую падзяку ўсім удзельнікам Каляднай Сустрэчы ды яшчэ раз падзякаваў, ад імя Парафіяльнай Рады, Спадарыні Валенціне Яновіч, якая ўзяла на сябе абавязак падгатовы й арганізацыі Каляднага Абеду.



*Сяброўкі Сястрыцтва падчас Каляднага Абеду. Зьлева направа: Сп-і. Яновіч Галіна, Яновіч Валя й Варабей Марыя*

# Мёртвыя Вёскі

Асваеньне цаліны ў Казахстане (Азыя) на плошчы блізу 40 мільёнаў гэктараў кончылася для Саветаў поўным фіяскам.

Вялікія матар'яльныя інвэстыцыі, замест багатых спадзяваных ураджаяў, на цалінных землях Казахстана, прынесьлі аграмадныя страты.

Галоўныя прычыны катастрофы – засухі. На каждыя каляндарныя тры гады, ў Казахстане два гады прыпадае засухі. Замест сельска-гаспадарчых культураў, вялізарная плошча ўзьнятая трактарнымі плугамі ператварылася ў бесканечнае мора пясьчаных дзюнаў. Толькі поўная ігнарацыя навукі й сьведчаньняў з галінаўкліматычна-мэтэролёгічных і пэдолёгічна-біолёгічных змусіла Хрушчова ды ягоных міністраў адважыцца ды распачаць зусім безнадзейнае асваеньне Казахстанскай пустыні.

Пасьля поўнай катастрофы з асваеньнем цалінных земляў, на іх мейсцы засталіся пустыя, мёртвыя вёскі, толькі яшчэ нядаўна пабудаваныя нялюдзкай працай беларускіх хлапцоў і дзяўчат, прымусова высланых у Казахстан. Як падае, Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, з Беларусі было выслана ў Казахстан 58,300 маладых хлапцоў і дзяўчат. Згодна БСЭ цяпер на тэрыторыі Казахстану знаходзіцца 192,750 беларусаў. Колькі загінула, ды колькі было выслана да іншых лягэроў зьняволеньня з тэрыторыі Казахстану ніхто ня ведае.

Асваеньне Казахстанскай цаліны прывяло адначасна й да вялікага зьнішчэньня сельскай гаспадаркі ў цэнтральных абласьцях РССР. Нідзе так бедна ня жывуць людзі, як у Тульскай, Разанскай і Валагодскай абласьцях. Там яшчэ сягодня можна напаткаць мёртвыя вёскі, дзе хаты развалены, палі зарослыя хмызьняком, забалочаныя й зусім ужо ня прыдатныя да карыстаньня.

З гэтых вёсак людзі былі прымусова вывезеныя на цаліну альбо да сыбірскіх лягэроў працы.

# МЫ ДОЙДЗЕМ!



*Экспанат з Літоўскай Пушчы каля вёскі Літоўка (Наваградчына).*

*Юрка Стукаліч*

Некалі ў мінулым, абвіла вас, нібы хмелям, непаўторная любоў. З таго часу на суровым крамяністым шляху астыла сэрца, але гэтая любоў назаўсёды засталася з вамі, як застаецца пад тоўстым і халодным лёдам бурлівы й няўтомны паток.

Здаецца яе звалі Марыляй, а, магчыма, інакай. Яе імя знаеце толькі вы адзін.

Часам, у хвіліны пошукаў мінулага вы радасна ўзрыгваеце, заўважыўшы перад сабою знаёмую жаночую постаць. Вы міжвольна прыбаўляеце кроку і, параўняўшыся, адразу пераконваецеся ў сваёй памылцы. Не, гэта не яна.

Яна мела прывабныя рысы твару з тонкім абрысам вуснаў, з сінімі задумчывамі вачамі, а валасы яе напаміналі лён. Гэта не яна, ня тая. Часам даносіцца да вас здалёк знаёмы сьмех. Вы ў схваляваньні сьпешаецеся туды, адкуль ён даляцеў да вас, але яшчэ не даходзячы, затрымліваецеся. Не, і гэта не яна. Яе сьмех прыпамінаў цурчаньне лясное крыніцы й песьню жаваранка, над нівай, ды эхо далёкай жалейкі. Гэта не яна. Гэта не Марыля.

Чаму дзівіцца чужынцы, калі заўважаць, што мы з юнацкім запалам сьпешаемся к, як быццам, знаёмым рэчкам, а пасьля ўсхваляваны глядзім на іх берагі.

Камусь із нас спачатку ўспамінаецца ціхі Сож, пад сівым Крычавам, іншым борздая Заходняя Дзьвіна, каля заўсёды непакорным і бунтаўнічым Веліжам, а некаторым, здаецца, што гэта авеяны паданьнямі бацька Нёман асьцярожна абходзіць спароджанае ім Горадню. Але калі толькі апынімся на беразе, мы ўжо ведаем, што гэта нямецкі ідылічны Рэген, які плыве ў Дунай, адбівае ў сабе развалiны замкаў Обэрпфальца, што гэта амэрыканскі рыжы ад алею Дэлявэр сьпяшаецца праз пракураннную фабрычным дымам Пэнсыльванію, што гэта аўстралійскі Мурэй скочваецца з узвышша Уэлса к нізінам кенгуровай Вікторыі.

Ня плывуць па ім лайбы й плыты, ня схіляліся над імі плакучыя вербы й бярозы, ня абмываюць яны сьвятыя Барысавы каменьні. Не, гэта ня Сож, ня Дзьвіна й ня Нёман.

Чаму-ж яны здівіца, калі мы, угледзяўшы перад сабою ўзгоркі шыбка ўзьбегаем на іх, а потым зьбянтэжана аглядаемся наўвокал.

Некаторым з нас здаецца, што гэта Віцебская Града, іншым – што гэта Наваградзкі Горб, а трэцім успамінаюцца маляўнічыя Панары пад Вільняй.

Але з іх мы бачылі не прыдарожныя крыжы ды прырэчныя курганы, не радзішчы й капліцы, а Нью-Ёрскія небаскробы, капальні Льежа й докі Буенос Айрэса. Не, гэта ня Віцебская Града, не Наваградзкі Горб і не Панары...

Чаму дзівіцца яны, калі мы, дзеці векавечных пушчаў, угледзяўшы лес кідаемся ў яго абыймы й адразу пакідаем яго. Некаторыя з нас сьпярша ўспамінаюць Белавежскую Пушчу, другія – Налібоцкую, а трэція – Вокаўскі Лес. Але ў запраўднасьці – гэта Іеллоўстонскі Парк на мяжы Вайомінга й Монтаны, а, магчыма, амазонскія джунглі Бразыліі, калі не канадыйская тундра.

Тут не вандруе зубр, не прарочыць зазюля й не чырванея, быццам аблiты крывёю, калючы шыпшынынік. Не, гэта не Белавежа, не Налібокі, і ня Вокаўскі Лес.

Чаму-ж дзівіцца чужынцы калі мы, пачуўшы далёкі звон, пабожна паднімаем руку, каб перахрысьціцца, але раптоўна апускаем яе. Нам здаецца, што гэта званы Полацкай Сьвятое Сафіі, або Меньскай Жоўтай Царквы, а, магчыма, касьцёлаў Вільні й Божай Маці Востра-Брамскай, ахінаюць нас сваім ямафорам. Але гэта толькі здаецца. Незнаёмыя праведнікі глядзяць каменнымі вачыма на нашае бяздоннае качэўе.

І мы ідзём далей. Ідзём удзень і ўначы. Ідзём і летам і зімою. Ідзём падчас буры й зацішша. Мы нясём з сабою ў сваіх залатаных клунках няўтомны смутак, большы Гімалаеў і Атлянтыка. І ня можа быць, каб мы нарэшце не дайшлі да сваёй непаўторнай любві, да сінявокай Беларусі. Бо-ж нашая любоў да Яе гэтак вялікая, што павінна зьдзейсьніцца й нашая надзея.

Але я бачу, што спазм раптоўна сьціснуў вашае горла ды задрыжэлі вашыя вусны. На нашых нагах кроў і крывёю сьцякаюць нашыя сэрцы. Дык дайце-ж руку й пойдзем разам далей. Бачыце там, далёка-далёка, дзе яснае неба, ізноў сінеюць рэкі, чарнеець лес, і ўзвышаюцца ўзгоркі. Мы дойдзем! Бяз усякага сумніву, дойдзем!

Памажы нам Божа!

# КАМУНІЗМ У ЛІКАХ

*працяг з 6-й бачынкі*

9% прадстаўнікоў да парлямэнту.

**У Пакістане** камуністычная партыя мае толькі нязначны посьпех сярод насельніцтва.

**У Філіпінах** про-Маскоўскія й про-Пэкінскія камуністычныя партыі былі амаль што зьліквідаваныя прэзыдэнтам Маркосам.

**У Індонэзіі**, аднойчы моцная камуністычная партыя, зусім замерла пасьля няўдалай спробы перавароту ў 1965 годзе. Яшчэ засталося троха камуністычных партызанаў, але яны ня могуць нічога зрабіць пры наяўнасьці сільнай арміі.

**У Малазіі** камуністыя, пераважна кітайцы, існуюць паравэжна толькі як партызаны.

**Тайлэнд.** Паўночныя раёны загрожаныя камуністычнымі партызанамі.

**Бурма.** У паўночных раёнах мяжуючых з Кітаям, знаходзіцца 7,000 партызанаў. Армія змагаецца зь імі але не вельмі пасьпяхова.

## АФРЫКА

У Афрыцы няма арганізаваных камуністычных партыяў. Аднак, ня меньш як, 9 афрыканскіх краінаў маюць левыя адно-партыйныя рэжымы.

**Сомалія** называе сваю палітычную ідэялёгію „навуковым сацыялізмам».

**Танзанія** мае „афрыканскі сацыялізм".

Наступныя афрыканскія краіны прыслалі сваіх прадстаўнікоў на 25-ы кангрэс камуністычнай партыі Савецкага Саюзу: Ангола, Конго, Гвінэя, Малагасі, Мозамбік, Намібія, Родэзія, Сэнэгал, Сомалія, Танзанія, і нелегальная камуністычная партыя Паўдзённай Афрыкі.

Масква таксама пробуе перацягнуць на свой бок вайсковыя рэжымы Нігерыі й Уганды. 11 афрыканскіх краін атрымлівае савецкую зброю, а 19 маюць савецкіх ваенных дарадцаў.

## ЦЭНТРАЛЬНАЯ Й ПАЎДЗЁННАЯ АМЭРЫКА

**Чылі й Урагвай** пачалі уводзіць зьмены да сваіх канстытуцыяў, каб зусім забараніць усякую форму Марксізму.

**У Калюмбіі й Вэнэцуэле** какамуністычныя партыі ёсьць лягальныя але атрымліваюць толькі нязначную падтрымку ад людзей.

**Гваяна.** Прам'ер Бурнгам пробуе ўвесьці Марксізм падобны да югаславянскага.

**Джамэйка.** Прэм'ер Манлы, прыхільнік Кастра й Кубы, ацэньвае свой рэжым як „дэмакратычны сацыялізм" і абяцае захаваць парлямэнтарную сыстэму, свабодную прэсу й усе людзкія правы.

**Пэру**, пачынаючы ад 1973 году, атрымлівае савецкую зброю й мае савецкіх і кубінскіх дарадцаў. Аднак малая камуністычная партыя ды раздвоеная паміж про-Маскоўскімі й про-Пэкінскімі элемэнтамі, ня мае вялікага посьпеху.

**Мэксіко.** Камуністычная партыя ёсьць лягальнай, але малая й слабая. Мэксіканская камуністычная партыя налічвае 5,000 сяброў і займае пазыцыі незалежныя ад Масквы. Сацыялістычная партыя налічвае 75,000 сяброў. Радыкальная камуністычная партыя, так званая „камуністычная ліга 23-га верасьня", занімаецца тэрорам, але яе іншыя партыі не прызнаюць.

**Панама.** Ад 1968 году ўсе партыі забароненыя вайсковым рэжымам.

У іншых краінах сьвету, камуністычныя партыі пераважна вельмі слабыя. Адзіны вынятак з гэтага – Аўстралія, дзе камуністычныя групы, разам налічваюць 6,000 чалавек ды маюць моцны ўплыў на рабочыя юніі.

У канадзе 2,000 партыйных ды яны не прызнаюцца іншымі левымі або радыкальнымі групамі. У нямеччыне, Швайцарыі й Аўстрыі камуністычныя партыі зусім нязначныя.

Практыка паказала аднак, што ўсе камуністычныя партыі: вялікія, малыя ці забароненыя ў сваёй дзейнасьці – іх ігнараваць ня можна. Аканчальнай мэтаю так званай „дыктатуры пролетарыяту" – зьнішчэньне ўсіх свабодаў, ды падпарадкаваньне чалавека й усяго дэмакратычнага сьвету таталітарна-камуністычнай сыстэме.

*С.*

# Адказ Др. Сядуры на ліст Арх. Васіля

Дарагі Ўладыка!

Прабачце, што адказваю на Ваш ліст ад 17 сьнежня адно цяпер. Я яго й пабачыў толькі пасьля новага году, пасьля звароту з вакацыяў. Прачытаўшы, быў гэтак узрушаны, што адразу і ня быў у стане пісаць. Вы закранулі вельмі важнае пытаньне, якое цяпер, у век паслабленьня веры, хвалюе й мусіць хваляваць кажнага з нас, Ні сакрэт, што сярод інтэлігенцыі расьце абыякавасьць да рэлігійных пытаньняў. Скрозь можна бачыць і пачуць, што частка разважлівае інтэлігенцыі трацінь сувязі з царквою, і калі й не становіцца бязбожніцкай, ня трацінь веры, дык, прынамсі, не бярэ актыўнага ўдзелу ў царкоўным жыцьці. Адбываецца ўсё большае адпадзеньне яе ад сучаснага цела Божага, увасобленага ў існуючай царкве. Я зусім разумею й падзяляю Вашую трывогу з гэтае прычыны. Таму мне зразумелыя Вашыя намаганьні ўзьдзеяць у добрым кірунку на чалавека, ў якім Вы бачыце наяўнасьць любові, гэтага галоўнага элемэнту, зь якога будуецца ўвесь будынак хрысьціянства.

Я вельмі ўдзячны Вам за тое, што падзяліліся са мною Вашымі каштоўнымі ўражаньнямі ад чытаньня маіх апавяданьняў у кнізе *На берагох пад сонцам.* І я зусім згаджаюся з вашаю думкаю аб недастатковай рэлігійнасьці яе аўтара. І хаця-ж у кнізе неаднаразова гаворыцца аб Божым стварэньні, прыродзе й чалавеку, аднак сапраўды аб вялікім імені Хрыста не гаворыцца. Праўда, Спінозаю я ніколі не захапляўся, хаця-ж некалі чытаў і яго па курсу філязофіі ў унівэрсытэце. На мяне, па праўдзе кажучы, большае ўражаньне рабіў Эмануіл Кант з яго ным катэгарычным імпэратывам і ідэялам прыгажосьці. Аднак, у сваіх творах я выходжу больш з свае собскае практыкі, уласнага жыцьцёвага дазнаньня, а веданьне сусьветнае культуры адно дапамагае выяўляць, знаходзіць адэкватныя формы, згодныя з агульначалавечым зьместам. Я ня думаю, што маё дачыненьне да прыроды можна азначыць *Пантэізмам.* Апошні разглядае прыроду як увасабленьне самое боскасьці. Для мяне-ж прырода зьяўляецца Боскім стварэньнем, творам Вышэйшае сілы. Над ёю самою ўзвышаецца Ўсявышні, які і ўвасобіўся ў постаці Бога-Чалавека – Хрыста. І менавіта Хрыстос, хаця-ж я Яго і не называю паводле імя ў сваёй кнізе, з Ягонымі ідэялямі красы, любові, гармоніі, дасканаласьці, дабра й чалавечае спагады – Ён зьяўляецца маім ідэялам. Я ніколі не забываю словаў Тодара Дастаеўскага, вывучэньню якога я пасьвяціў шмат часу й энэргіі ды пра якога напісаў колькі кніг, што Хрыстос зьяўляецца найвышэйшым існуючым ідэялам ува ўсім сьвеце, ува ўсе часы і эпохі. У лісьце да В. А. Аляксеева ад 7 чэрвеня 1870 г., Тодар Дастаеўскі пісаў (Цытую паводле "ПИСЬМА Ф. М. Достоевского", Том 3, бал. 211–213, М., 1934):

"Христос отвечал: 'не одним хлебом жив человек' – т.е. сказал аксиому и о духовном происхождении человека. Дьяволова идея могла подходить только к человеку-скоту, Христос же знал, что одним хлебом не оживишь человека. Если притом не будет жизни духовой, идеала Красоты, то затоскует человек, умрет, с ума сойдет, убьет себя, или пустится в языческие фантазии. А так как Христос в Себе и в Слове своем нес идеал Красоты, то и решил: лучше вселить в души идеал Красоты; имеяего в душе все станут один другому братьями и тогда, конечно, работая друг на друга, будут и богаты. Тогда как дай им хлеб и они от скуки станут, пожалуй, врагами друг другу.

Но если дать Красоту и Хлеб вместе? Тогда будет отнят у человека труд, личность, самопожертвование своим добром ради ближнего – одним словом отнята вся жизнь, идеал жизни. И потому лучше возвестить один идеал духовный."

Калі я чытаў Ваш цудоўны артыкул „ПОМНІ..." ў *Голасе Царквы* №20, дзе Вы менавіта і гаворыце аб духовай прыродзе чалавека, я яшчэ і яшчэ раз прыгадваў аб тым, што Бог удыхае ў чалавека подых жыцьця, падымае яго, набліжае да сябе, уздымае вышэй і аддаляе яго ад скаціны, але праз грахі свае чалавек часта вяртаецца зноў да стану быдла. Вы маеце поўную рацыю, калі пішаце пра змаганьне за Божую Праўду й Свабоду ды пытаецесь людзей і кажнага чалавека асобна: *А ты для чаго працуеш?* І Вы зусім правільна заклікаеце да пошукаў Хлеба Нябеснага, бо толькі гэты апошні становіць вечныя духовыя каштоўнасьці, багацьці, што ня гінуць, багацьці ў Богу. Я па-свойму закранаў гэтае пытаньне ў апавяданьні *Пётра Абуховіч, Рывэрсайдзкі мрыйнік,* але Вы вельмі добра абагулілі той канфлікт у сьвятле Хрыстовае навукі і выказаліся аб Хлебе Душы.

Мне застаецца шчыра падзякаваць Вам за напамін пра асобу Хрыста й патрэбу ўжо цяпер стацца Сьвятлом Хрыстовага Сьвятла. Ведаючы сваю недасканаласьць, я Вам удзячны за напамін пра яе. Будзем-жа ўсе мы рабіць ходаньні, каб узьняцца на ўзвышшы Хрыстовае любові і прасьвятліць свае душы Божай Мудрасьцяй. Дзякую Вам за добрыя пажаданьні й любоў. Ваш у Хрыстовай любові

Уладзімер Глыбінны

# Маскоўскі Патрыярх падтрымлівае савецкую антырэлігійную палітыку

Маскоўскі Патрыярх Пімен у інтэрвью з карэспадэнтам савецкіх „Новостей" сказаў, што ў СССР ёсьць поўная рэлігійная свабода і, што ня было яшчэ ніводнага выпадку, каб савецкая ўлада за рэлігійныя пераконаньні каго-небудзь судзіла, трымала ў цюрмах ці псіхушках, альбо высылала да концэнтрацыйных лягэроў. Пры гэтым, Патрыярх падкрэсьліў, што адказнасьць за ўсё сказанае, ён бярэ на сябе й ня дбае ці хто яму паверыць ці не.

Увесь сьвет ведае, аб жорсткіх перасьледаваньнях рэлігіі, вернікаў і духавенства, аб судох і ссылках.

Абсалютна незразумелым ёсьць, каб гэтага ня ведаў галава Царквы – Патрыярх.

Ведама, што Патрыярх ёсьць нявольнікам НКВД, але афіцыяльна выступаць у абароне антырэлігійнай улады, зусім не выпадае найвышэйшаму царкоўнаму Дастойніку.

Патрыярх павінен ведаць, што гэткае выступленьне, гэткая няпраўда, ня толькі абніжае прэстыж Галавы Царквы, але зьневажае самую Царкву, вернікаў і сьвятароў, каторыя за Веру й Праўду аддаюць сваё жыцьцё ў савецкіх цюрмах, псіхушках і сібірскіх лягэрох.

Робячы й гаворачы ў гэткі спосаб, ды выконваючы загады НКВД, Патрыярх добра ведае, што гэтым ён не выратуе Царквы ад антырэлігійнага перасьледаваньня й не прычыніцца да палепшаньня й адроджаньня Царквы наагул.

**Рэдакцыйная Калегія двумоўнай газэты „Беларускі ЧАС" ветліва просіць сваіх чытачоў урэгуляваць падпіску за бягучы 1977-ы год.**
*РЭДАКЦЫЯ*

У 1975 г. Фондам Фундацыі Пётры Крэчэўскага была выдана кніга Юры Стукаліча *„Мы Дойдзем".* Апошні артыкул з гэтай кнігі сяньня друкуецца на балонках нашай газэты *ЧАС.* Кніга напісана па расейску. Хто яшчэ ня мае гэтай цікавай кнігі радзім выпісаць. Цана кнігі $5.50 уключаючы кошты перасылкі. Адрэса: Mr. K. Akula, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ontario, Canada, M4K 1C2.